ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

Год. XXXI Но. 299 Нью Ёрк — Красавік — 1982 — April — New York Vol. XXXI № 299

## ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ "ЯНКА КУПАЛА"

Выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" імя Пятруся Броўкі рыхтуе цяпер да друку энцыкляпэдычны даведнік „Янка Купала". Даведнік гэты, паводля інфармацыі І. Саламевіча, загадчыка рэдакцыі Беларускага слоўніка БелСЭ („Зьвязда", 18.III.82), „будзе зьмяшчаць артыкулы пра ўсе мастацкія і публіцыстычныя творы Янкі Купалы".

Як відаць з прыкладаў, зьмешчаных у сёлетнім студзенскім нумары часапісу „Беларусь", энцыкляпэдычны даведнік „Янка Купала" абяцае быць вельмі цікавым і вартасным выданьнем. Але цяпер ужо ўзьнікае адно прынцыпова важнае пытаньне: як трэба разумець Саламевічава цьверджаньне, што ў „энцыкляпэдыі песьняра" будуць артыкулы пра „ўсе" мастацкія творы Купалы?

Як ведама, у кажнае з трох паваенных шматтомавых выданьняў Купалавых твораў не ўваходзіў пэўны лік вершаў і паэмаў (пералік іх гл. у сёлетнім студзенскім нумары „Беларуса"). А Купалава сатырычная п'еса „Тутэйшыя", у якой высьмейваюцца „Ўсходні вучоны" й „Заходні вучоны" ды іхная дэнацыяналізатарская палітыка на Беларусі, не перадрукоўвалася ў Савецкім Саюзе на працягу больш як паўстагодзьдзя. Дык ці Саламевічавы „ўсе" датычаць і да тых Купалавых твораў, якіх дасюль не перадрукоўвалі?

У „энцыкляпэдыі песьняра", як відаць зь сёлетняга студзенскага нумару „Беларусі", будуць гэткія даведкі, як „Вечарынка" (верш Купалы), „Вера і нацыянальнасьць" (публіцыстычны артыкул Купалы), „Вечна жывая паэзія" (прамова Купалы); „Вадэвіль", „Вайдэлоты", „Ваўкалак", „Віленскае выдавецтва „Клецкіна" ды іншыя, якія даюць тэматычны, жанравы, геаграфічны, біяграфічны ўгляд у Купалаву спадчыну, жыцьцё творчы мэтад, вобразную структуру й г.д.

Але вось у лік забароненых Купалавых твораў трапілі вершы „Вялікдзень", „Забраны Край", „Казка аб песьні", „Над Нёманам", „Беларушчына", „Брату Беларусу" ды шмат іншых, а таксама паэмы „На Куцьцю", „На Дзяды". Ці ў энцыкляпэдыі „Янка Купала" будуць і пра іх асобныя даведкі гэтак, як яны будуць пра вершы „Вечарынка у калгасе" ды „Хлопчык і лётчык"? Цікава было-б пачуць адказ ад газэты „Зьвязда" ці „Літаратура і Мастацтва" на гэтае кардынальна важнае пытаньне.

Рэч у тым, што ў Купалавых забароненых творах ёсьць сымбалічныя постаці, нязвычайна важныя для разуменьня ўсяго Купалы: „князь", „уладар", „ганцы", „прарок", „людзі чужыя", „Забраны Край", „тутэйшыя" ды шмат іншых. Бязь іх Купала — ня Купала. Дык няўжо ўсё гэта, ладная чстка чаго была напісаная за часамі дзеяньня царскае цэнзуры, ня знойдзе месца ў энцыкляпэдыі „Янка Купала"? Пра якую-ж тады паўніню адлюстраваньня Янкі Купалы ў энцыкляпэдычным даведніку можна будзе гаварыць? Пра які навуковы характар даведніка можа быць гутарка? Пра якую энцыкляпэдычнасьць?

Трэба спадзявацца, што менскія выдаўцы энцыкляпэдыі „Янка Купала" ўсьведамляюць сабе важнасьць гэтых пытаньняў цяпер, пакуль рыхтаваны імі даведнік знаходзіцца ў стадыі складаньня й рэдагаваньня.

## "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

### (ДА 100-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА)

**(Пачатак і працяг у нр-ох 294-295, 296, 297, 298)**

Таксама дзякуючы Івану Луцкевічу, ягонай ініцыятыве й вынаходлівасьці ў здабываньні матар'яльных сродкаў на справу, выданьне беларускае газэты было адноўленае ў тэй-жа Вільні, пад нямецкай акупацыяй, толькі пад іншым загалоўкам — „Гоман". Газэта выходзіла ад 1916 г. аж па канец нямецкае акупацыі ў 1918 годзе. Рэдактарам ейным, ужо ня толькі фактычным, а й афіцыйным быў Вацлаў Ластоўскі.

Другім пасьля заснаваньня й забясьпечваньня сталага выхаду нацыянальнае прэсы выдатнейшым вычынам Івана Луцкевіча было запачаткаваньне вываду беларускае справы на міжнацыянальныя (у межах Расейскае імпэрыі) ды міжнародныя форумы, напачатку таксама праз каналы Беларускае Сацыялістычнае Грамады.

Першым такім форумам быў зьезд сацыялістычных партыяў у 1905 г. у Фінляндыі, дзе ўпяршыню Іван Луцкевіч у сваім выступленьні прадставіў беларускую справу. Тут таксама быў навязаны ім кантакт зь ірляндзкімі рэвалюцыянерамі, які ён падтрымваў на працягу ўсяго свайго жыцьця, зрэдку дастаючы ад іх хоць і невялікія (самі былі небагатыя) матар'яльныя ахвяры на беларускую нацыянальную справу (гл. віленскі зборнік, б. 9-10).

Пра выступленьне Івана Луцкевіча на другім падобным форуме — на канфэрэнцыі нацыяльна-сацыялістычных партыяў, што адбывалася 16-20 красавіка 1907 г., мы ведаем ужо больш — поўны тэкст гэтага выступленьня зьмешчаны ў выданай пасьля канфэрэнцыі кнізе „Протоколы конференции национально-социалистических партий 16-20 апреля 1907 г." (Санктпетербург, 1908).

Выступаў Іван Луцкевіч на гэтай канфэрэнцыі пад псэўданімам „Шчасны", пад якім зьмяшчаліся зрэдку ягоныя нататкі ды фотаздымкі зь ягонага збору ў „Нашай Ніве" ў першых гадох ейнага выхаду (як, прыкладам, нататка — „Замчышча ў Наваградку" — з фотаздымкам гэтага замчышча, зьмешчаная ўжо ў № 2 „Нашае Нівы" за 1906 г.). Выступленьне Івана Луцкевіча-„Шчаснага" на гэтай канфэрэнцыі было ягоным дакладам пра гісторыю й пазыцыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады, якую ён рэпрэзэнтаваў на канфэрэнцыі.

У гэтым дакладзе найперш зварачае на сябе ўвагу паведамленьне, што Грамада на сваім першым зьезьдзе ў васнову сваe праграмы паклала „прынцып тэрытарыяльнае незалежнасьці для Заходняга краю з соймам у Вільні" („Протоколы...", б. 92) — гэта адзінае ў літаратуры пытаньня аўтарытэтнае сьцьверджаньне спачатнага незалежніцкага становішча Грамады, пазьней злагоджанага да дамаганьня аўтаноміі, якога беларускі нацыянальны рух трымаўся як адзінага да 1915 г., калі пачаліся выказваньні й захады ў незалежніцкім духу, які канчальна затрыюмфаваў у акце 25 сакавіка 1918 году.

Другое, што зварачае на сябе ўвагу ў разгляданым дакладзе Луцкевіча-Шчаснага, гэта выразнае сфармуляваньне стану дачыненьняў Грамады да іншых партыяў, асабліва да Расейскае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі (РСДРП), фракцыяй якое былі тады бальшавікі.

„Што да нашага дачыненьня да іншых сацыялістычных і рэвалюцыйных партыяў, — казаў Іван Луцкевіч-Шчасны, — дык мы ня трымаемся агрэсыўнае палітыкі, не перабіваем у іншых партыяў ні работнікаў, ні сялянаў, жывём зь імі зьмірна, апрача, зрэшты, РСДРП, якая даўжэйшы час у дачыненьні да Грамады трымалася надзвычай агрэсыўна. Да таго-ж яна не прызнае ўжываньня нашае роднае мовы ды трымаецца пагляду, што адмаўляе фэдэрацыйны лад" („Протоколы...", б. 95).

Як ведама, бальшавікі й стаўшыся асобнай партыяй, не прызнавалі ані беларускае мовы, ані нат самое Беларусі як нацыі, аж пакуль ня змушаныя былі ў 1917-18 гг. пад узьдзеяньнем разгортаньня беларускага нацыянальнага руху, асабліва згадванага ўжо акту 25 сакавіка 1918 г., пайсьці на абвешчаньне свае, фармальна незалежнае Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі (БССР) ды дапушчэньня ў ёй разгорнутае беларусізацыі, што было шырака выкарыстанае беларускімі нацыянальнымі працаўнікамі, якіх пасьля ў трыццатых гадох, тыя-ж бальшавікі пачалі сыстэматычна нішчыць, пераходзячы ад беларусізацыі да русыфікацыі, што ад таго часу прагрэсуе ўсё больш а больш.

Трэйцяе, і мо найцікавейшае ў выступленьні Івана Луцкевіча-Шчаснага на канфэрэнцыі нацыянальна-сацыялістычных партыяў, гэта зробленая ім пры дыскусіі пра г. зв. „нацыянальныя саюзы" спасылка на адну думку ведамага лінгвістага, праф. Бадуэна-дэ-Куртэнэ. „Мне ўспамінаецца, — казаў Луцкевіч-Шчасны, — думка праф. Бадуэна-дэ-Куртэнэ, выказаная ім на леташнім зьезьдзе аўтанамістых: ёсьць людзі, сказаў ён, якія псыхалягічна могуць сябе прызнаць адначасна прыналежнымі да трох нацыянальнасьцяў" („Протоколы...", б. 62).

Як было ўжо адзначана (гл. Н. Недасек, „Большевизм в революционном движении Белоруссии", Мюнхен, 1956, б. 131), у гэтым выказваньні можна бачыць выражэньне становішча сваяасаблівага, сказаць-бы, „полінацыяналізму" (шматнацыяналізму), якое, мяркуючы і паводля дакумэнтаў і паводля асабістых успамінаў шмат каго, было вельмі характэрным для грамадаўцаў, асабліва для іхных лідэраў, дый наагул мо для бальшыні ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху, для якіх, можна сказаць, было тыповым падобнае пачуцьцё й прызнаньне псыхалягічнае й культурнае прыналежнасьці адначасна да колькіх нацыянальнасьцяў, дзеля чаго, зрэшты, быў вельмі спрыяльны грунт якраз у Беларусі, дзе бадай кажны ўжо ад нараджэньня ставаўся сваяасаблівым паліглётам, апаноўваючы адразу-ж і адначасна тры, ато й чатыры мовы (беларускую, расейскую, польскую, а часам і „ідыш") ды ўжо праз гэта ўжываючыся да пэўнай ступені псыхалягічна й культурна ў вадпаведныя гэтым мовам нацыянальнасьці.

І братом Луцкевічам адмалку, пэўна-ж, даводзілася знаць і ўжываць і мову польскую, звычайную ў інтэлігентных каталіцкіх сем'ях на Беларусі таго часу, і расейскую (ня толькі праз школу, але й ад бацькі-чыноўніка), і беларускую (ад найбліжэйшых да малых дзяцей гадавальніцаў-нянек ды хатніх працаўніцаў). З гэткай колькімоўнасьцяй і да іх, як і да вялікага ліку Беларусаў нат ня толькі зь інтэлігентных сем'яў, прыходзіў і той, сказаць-бы, практычны, псыхалягічны й культурны „полінацыяналізм", а ў лягічнай пэрспэктыве і, т. ск. „паннацыяналізм", які зусім укладаецца ў плян таго разуменьня нацыяналізму, якое найлепш было сфармуляванае ў выпушчанай ў 1939 годзе калектыўнай працы брытанскіх навуковых пра нацыяналізм, дзе ў разуменьне нацыяналізму ўлучаны мамэнт усьведамленьня апрычонасьці, дабра й інтарэсаў нацыяў наагул, у тым ліку нацыі, да якой належыць дадзеная асоба, а ня вылучна гэтае апошняе нацыі (гл. Nationalism. A Report by a Study Group of Members of the Royal Institute of International Affairs, Oxford University Press, London-New York-Toronto, 1939, p. XX).

Гэткае разуменьне — назавем яго брытанскім, або ангельскім — розьніцца, з аднаго боку, ад вузкога разуменьня нацыяналізму як, сказаць-бы, „монанацыяналізму", якое дапушчае, прынамся ў лягічнай пэрспэктыве, шавінізм ды падобныя пэрвэрсіі, ды якое можна назваць нямецкім (пар. у цытаванай брытанскай працы бб. XIX-XX). З другога-ж боку, розьніцца яно й ад „інтэрнацыяналізму" ў савецкім разуменьні, пад які фактычна падстаўляецца расейскі „монанацыяналізм".

(Далей у наступным нумары)

**Ант. Адамовіч**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**„Сьмерць! Дзе жыгала тваё? Пекла! Дзе перамога Твая?" (1 Кар. 15:55).**

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагія й любыя Айцы й Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы!

Гэтак словамі сьвятога апостала Паўла ўсклікае сьв. Ян Залатавусны ў сваім вялікодным лісьце.

Няма сумлеву, што хутка пасьля ўкрыжаваньня Хрыста, Ягоныя вучні былі прыгнобленыя ды духова перажывалі страту. І не аднаму зь іх прыходзіла на думку: „А што будзе далей?" Магчыма, вучні думалі й дзеілі так адразу па ўкрыжаваньні Госпада перад Ягоным уваскрасеньнем, але не пасьля яго. Бо-ж адразу пасьля Госпадавага ўваскрошаньня слова першых хрысьціян было ПЕРАМОГА. „Праглынена сьмерць перамогаю. Сьмерць! дзе жыгала тваё? Пекла! дзе перамога твая?" (1 Кар. 15:54-55). Усклікае сьв. ап. Павал, а ў другім месцы ён піша: „Але ўсё перамагаем праз Таго, Хто палюбіў нас" (Рым. 8:37). А сьвяты эвангелісты Ян піша: „І гэта ёсьць перамога, што перамагла сьвет, вера ваша. Хто перамагае сьвет, калі ня той, хто верыць, што Ісус ёсьць Сын Божы" (1 Ян 5:4-5).

Новы Запавет поўны надзеяй, якая пераконвае нас, што праз Бога Хрыста дадзеная нам перамога — перамога над усякім ворагам, перамога над усякім ліхам: грахом, злом і сьмерцяй.

Дзеля ўваскрошаньня Госпада запраўдны хрысьціянін мае надзею на будучыню. Ён ведае дакладна, што гэта азначае. Ён ведае, што ёсьць на сьвеце й ліхія людзі. Ён ведае, што цяперашні сьвет у блудзе. Але ён надалей мае вялікую надзею на сьветлую будучыню, бо ён ведае Хрыста. Госпад кажа: „На сьвеце будзеце мець гора, але будзьце адважныя: Я перамог сьвет" (Ян. 16:33). Госпад наш Ісус Хрыстос не сказаў „Я перамагу сьвет", але „Я перамог сьвет".

Кажны ахрышчаны хрысьціянін, што пасьвяціў сваё жыцьцё Ісусу, можа сказаць: „Хрыстос жыве, таму і я буду жыць. Хрыстос жыве, таму і я таксама перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё. Хрыстос жыве, і я таксама маю перамогу".

Перамогу над грахом. Грэх мае сілу зьняволіць і пахаваць нас жыўцом у пазалочанай дамавіне й роспачы. Толькі Хрыстос мае сілу адчыніць магілу й вызваліць нас.

Перамогу над дэманам. Сьвятое Пісьмо часта паказвае Хрыста, як Ён зрынаў дэманаў. Ён і цяпер нагараджае нас перамогай над дэманам, што нявоміць нас і робіць жыцьцё праўдзівым пеклам: нянавісьць, помста, жаднасьць і зайздрасьць. Але: „Хто ў Хрысьце, той новае стварэньне; старое мінула, вось усё сталася новае" (2 Кар. 5:17).

Перамогу над сабою. Хрыстос даў нам перамогу над сабою. Бо-ж запраўдная вайна — у нутры нашым. Якраз тут мы павінны перамагчы яшчэ перад тым, калі мы хочам перамагчы навонкі.

Перамогу над сьмерцяй. Канчатковую перамогу ахвяроўвае нам Хрыстос над апошнім і найвялікшым ворагам: сьмерцяй. Той, хто верыць у Хрыста, сьмела ўспрыймае сьмерць, бо ведае, што Бог супакою зь ім і пэўнасьць канчатковае перамогі ў Хрысьце. Сам Госпад запэўнівае нас: „Я ўваскрасеньне й жыцьцё; хто веруе ў Мяне, хоць памёр, будзе жыць" (Ян. 11:25). Гэтыя словы ўваскрослага Хрыста даюць нам моц ператрываць усякую бяду. Сьв. ап. Павал сьцьвярджае, калі піша: „Што-ж скажам на гэта? Калі Бог за нас, хто супраць нас. Бо я перакананы, што ані сьмерць, ані жыцьцё, ані ангелы, ані княствы, ані цяперашнія, ані будучыя, ані сілы, ані вышыня, ані глыбіня, ані якое іншае стварэньне не адлучаць нас ад любасьці Божае ў Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым" (Рым. 8:31, 38-39).

У сьвяты дзень і праз увесь вялікодны час мы вітаем сустрэчных словамі „Хрыстос Уваскрос!" ды чуем адказ: „Запраўды Ўваскрос".

Сьв. ап. Павал кажа: „Вось-жа Хрыстос уваскрос зь мёртвых, першаком з памерлых стаўся. Бо як сьмерць праз чалавека, гэтак праз чалавека і ўваскрасеньне зь мёртвых. Бо як у Адаме ўсе паміраюць, гэтак таксама ў Хрысьце ўсе ажывуць" (1 Кар. 15:20-22). Вось тут — перамога над сьмерцяй: „Хто выпаўняе слова Маё, сьмерці ня ўгледзіць навекі" (Ян. 8:51). „І кажны, хто жыве й веруе ў Мяне, ніяк ніколі не памрэ" (Ян. 11:26).

Уваскрошаньне — гэта слаўны падлік Хрыстовага пабыту на зямлі. І яно пачатак перараджэньня сьвету. Таму ўваскрошаньне значыць прабуджэньне і яно падыймае заняпалы сьвет, і яно аднаўляе да першапачатку райскага стану, як гэта было перад упадкам.

Любыя Айцы й Дарагія Вернікі БАПЦ, якія ні былі-б нашыя абставіны, ажывімся сучаснай урачыстасьцяй, абымем адзін аднаго, і ўсім, хто супраць нас, выбачым усё дзеля ўваскрослага Ісуса Хрыста Госпада й Збаўцы нашага, ды сэрцам і вуснамі разам засьпяваем: „Хрыстос зь мёртвых уваскрос, сьмерцяю сьмерць паканаў, і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў". Амін.

Вялікдзень
Году Божага 1982.

**З ласкі Боскае пакорны ў Богу**

**✠ МІКАЛАЙ, Архіепіскап
Беларускае Аўтакефальнае
Праваслаўнае Царквы.**

## АБНІЖЭНЬНЕ ТЫРАЖОЎ БЕЛАРУСКІХ ЧАСАПІСАЎ

Беларусы на 100-годзьдзе ад нараджэньня Купалы й Коласа ды на 60-годзьдзе ад стварэньня СССР дасталі ад партыі юбілейны „падарунак": зрэзаныя тыражы беларускіх літаратурных часапісаў. Супастаўленьне тыражоў за сьнежань летась і студзень сёлета паказвае наступнае:

| Назоў выданьня | Тыраж сьнеж. 81 | Тыраж студз. 82 |
|---|---|---|
| Полымя | 11 000 | 9 000 |
| Маладосьць | 16 486 | 13 837 |
| Беларусь | 21 000 | 18 763 |
| Неман (парасейску) | 147 000 | 169 000 |

Якія прычыны таго, што ў юбілейным годзе зрэзаныя тыражы беларускіх часапісаў, афіцыйна тымчасам няведама, хоць ня цяжка здагадацца, што рэч тут у гэтак званай палітыцы зьбліжэньня савецкіх народаў — тэрмін, якім прыкрываецца русыфікацыя.

У савецкім друку час-часом чуваць нараканьні на нястачу паперы й выпраўдваньні гэтай нястачай штучнай заніжанасьці некаторых выданьняў. Але ў гэтым выпадку нястачай паперы нельга нічога вытлумачыць, бо на падвышэньне тыражу расейскага часапісу „Неман" папера знайшлася (выглядае, што ўзялі ад „Полымя", „Маладосьці" й „Беларусі" ды перадалі „Неману").

### ВЕСТКІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Праз нашага супрацоўніка ў Лёндане (Ангельшчына) мы даведаліся, што на Беларусі ўрадавыя дзейнікі вядуць скупліваньне ад грамадзянаў кніжак Бібліі, плоцячы 50 рублёў за экзэмпляр.

Апошнім часам з Афганістану на Беларусь прывозяць усё больш трунаў з забітымі ў Афганістане савецкімі жаўнерамі.

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УГОДКІ 25 САКАВІКА

## ТАРОНТА, КАНАДА

Праз увесь тыдзень ад 21 да 28 сакавіка ля ратушы Таронта ўзьвіваўся беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Распасьцёршы вольна свае крылы, ён сьветчыў небу й зямлі: „Жыве Беларусь! Слава Вам, Тварцы Акту 25 Сакавіка — Тварцы сувэрэннай БНР!"

Мэр Таронта Артур Эглтан у сваім „ПРЫВІТАНЬНІ БЕЛАРУСКІМ КАНАДЫЙЦАМ" пісаў:

„Зь вялікай прыемнасьцю вітаю ўсіх Канадыйцаў беларускага паходжаньня з угодкамі — абвешчаньня 25 сакавіка 1918 г. Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

„Гэтыя угодкі дарагія сэрцу ўсіх Беларусаў-Канадыйцаў і будуць імі сёлета ўрачыста й з гордасьцю адзначаныя. Мы ў Тароньце радыя мець грамадзянаў з Вашай спадчынай і падзяляць Вашу культуру й традыцыі.

„Мае найлепшыя пажаданьні Вам на Ваша сьвята."

4-га красавіка беларускі сьцяг побач канадыйскага шумеў ля Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Тароньце. У царкве Беларусы маліліся за аднаўленьне сувэрэннасьці БНР. Застольную бяседу зладзілі сп-ні Марыя Ганько й Вера Радэк. Урачысты Сход, арганізаваны галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў Канады, адкрыў сп. М. Ганько. Ён прачытаў прывітаньні ад Старшыні Рады БНР др. Вінцэнта Жука-Грышкевіча, Мэра Таронта сп. Артура Эглтана, ад прадстаўніка сьвяткавальнага камітэту ў Лёс Анджэлёсе сп. Часлава Найдзюка, ад сакратара ўправы Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхася Раецкага, ад старшыні Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў штаце Ільліной сп. Васіля Пунтуса, ад старшыні й сакратара Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія) сп. сп. Ул. Сідлярэвіча й М. Скабея, ад старшыні галоўнай управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі сп. Янкі Міхалюка.

Прынагодны даклад мела др. Раіса Жук-Грышкевіч. Асноўным працэсам духовага жыцьця чалавека, — гаварыла яна, — гэта памятаньне мінуўшчыны й спадзяваньні, мары на будучыню. Хіба найбольшай трагэдыяй для чалавека — поўная амнэзія, калі ён забываецца, хто й скуль ён, забываецца, што было сьпярша. Для такога чалавека няма будучыні, бо яна будуецца на прошласьці, а ён яе забыўся. Другая трагэдыя гэта зьняверанье, адсутнасьць надзеі й мараў аб будучыні. Гэткі чалавек памірае ня толькі духова, але й фізычна.

У жыцьці народу, як і ў жыцьці адзінкі, найбольшая трагэдыя — калі народ, як Янка Купала кажа, „забыўся, як Бацькаўшчыну, як яго завуць". Я. Купала лечыць нас ад найбольшай хваробы народу — амнэзіі, дэнацыяналізацыі. Я. Купала лечыць нас ад іншай сьмяротнай хваробы — зьняверанья: „Паўстань народ, для будучыні шчасьце ты строй, каб пут ня строіў больш сусед!"

Ды каб строіць будучыню, трэба знаць і памятаць прошласьць. Будаваць будучыню можна толькі на фундамэньце здабыткаў нашага народу ў прошласьці. Сяньня, як кажны год гэтай парою, мы сабраліся, каб не забывацца, як Бацькаўшчыну, як нас завуць, каб не забывацца прошласьці, найвялікшых здабыткаў нашага народу ў найнавейшай гісторыі, каб на гэтых здабытках — „спадчыне нашых дзядоў" — будаваць будучыню, „каб пут ня строіў больш сусед".

Мінула 64 гады ад тае вясны, ад тае сонечнае раніцы 25 Сакавіка, калі а 8-ай гадзіне ў Менску была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дакладчыца далей дала агульны, але як мага ясны абраз тых падзеяў, якія давялі да ўтварэньня сувэрэннай нацыянальнай беларускай дзяржавы — БНР, яе паўстаньня й упадку, стварэньня бальшавікамі, для замены БНР, БССР. Прадставіла пэрыяд НЭПу, беларусізацыі, яжоўскіх чыстак, генацыду беларускага народу сталінізмам, нацыянальнага адраджэньня пасьля адступленьня бальшавікоў зь Беларусі ў часе 2-ой сусьветнай вайны. Нарэшце перайшла да заданьняў беларускае эміграцыі:

„Існаваньне Рады й Ураду БНР — соль у вочы ворагам Беларусі, бо яно ім напамінае, што яны — толькі акупанты, што праўная ўлада ў Беларусі — гэта Рада й Урад БНР. Таму яны усякімі спосабамі й подступамі хочуць яе зьліквідаваць. Аб гэтым мы мусім памятаць, бо якраз на нашу долю прыпаў абавязак перахаваньня цяглясьці праўнага носьбіта сувэрэннае ўлады Беларускага Народу. Нікога іншага, як толькі нас — беларускую эміграцыю — гісторыя будзе судзіць, калі мы гэтага абавязку ня выканаем".

Урачысты Сход закончыўся адсьпяваньнем нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ЛЁНДАН, АНГЕЛЬШЧЫНА

Сьвяткаваньне 64-ых угодкаў БНР адбылося 21 сакавіка ў залі Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарыны ў Фінчлей і было арганізаванае ўправаю лёнданскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Акадэмію адчыніў старшыня аддзелу сп. Я. Сяўковіч, прывітаўшы ўдзельнікаў ды прачытаўшы прывітальныя лісты ад беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі, Канады й Заходняе Нямеччыны.

Рэфэрат на тэму дня зрабіў сп. А. Здановіч. На ўступе дакладчык зазначыў, што ўжо роўна 35 гадоў як Беларусы арганізаваным парадкам адзначаюць у Лёндане дзень Незалежнасьці Беларусі. У рэфэраце былі насьветленыя гістарычныя падзеі ды сучасны стан на Беларусі. Сталая сыстэма расьсельваньня Беларусаў па далёкіх вобласьцях Савецкага Саюзу, сказаў дакладчык, выклікае ў беларускім сьведамым грамадзтве на Бацькаўшчыне глыбокі гнеў на сучасных кіраўнікоў БССР. Савецкая сыстэма вядзе да вынародніваньня Беларусаў. Вось чаму Беларусы ў Вольным Сьвеце павінны напружана працаваць на карысьць Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сп-чна Вера Рыч прачытала перакладзены ёю ў ангельскую мову верш Янкі Купалы „На сход"

З дапаўняльным словам выступіў Мітрафорны Пратаярэй а. А. Надсон. Даючы агляд беларускага культурнага жыцьця, прамоўца назваў, як прыклад любові й ахвярнасьці, дзейнасьць сьв. пам. Ўладыкі Часлава Сіповіча, які пакінуў па сабе багаты скарб — Беларускую Бібліятэку й Музэй, што служыць цяпер справе вывучэньня й пашырэньня веды пра Беларусь. Гэты скарб, сказаў а. Надсон, высака цэніцца як сваймі, гэтак і чужымі, аб чым найлепш сьветчаць водгукі нашых суродзічаў на заклік аб грашовай дапамозе, патрэбнай для далейшага ўтрыманьня гэтых установаў. Толькі за апошнія шэсьць месяцаў на фонд Бібліятэкі й Музэю было ахвявавана больш за адзінаццаць тысячаў фунтаў. Але гэтага яшчэ далёка нестае, каб стварыць трывалую аснову для безупыннае дзейнасьці Бібліятэкі й Музэю.

З прывітальным словам выступіў старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк. Ён падкрэсьліў важнасьць сыстэматычнае беларускае арганізацыйнае й палітычнае дзейнасьці на чужыне ды заклікаў да далейшае працы. З нагоды Дня Жанчыны сп. Міхалюк прывітаў прысутных жанчын ды нагадаў пра абавязак матак перадаваць дзецям веды свае роднае мовы, набліжаць іх да беларускага асяродзьдзя.

Урачыстасьць была закончаная беларускім нацыянальным гімнам. Зачыняючы яе, сп. Сяўковіч запрасіў удзельнікаў на пачастунак, які быў удала нарыхтаваны сп-няй Л. Міхалюк.

**А. З.**

## НЬЮ ЁРК, ЗША

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Нью Ёрк адзначыў у нядзелю 28 сакавіка. Зьехаліся людзі ня толькі з Нью Ёрку й ваколіцаў, але й з суседніх штатаў Нью Джэрзі й Канэктыкэт. У ўтульнай залі гатэлю Дораль Ін сустрэліся суродзічы, каб сваёй масавай прысутнасьцяй, яшчэ раз голасна прадэманстраваць, што „Жыве Беларусь", жыве й памяць пра векапомны Акт 25-га Сакавіка 1918 году.

Урачыстасьць адчыніў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелайць, прывітаўшы прысутнае на сьвяткаваньні духавенства: Архіепіскапа Мікалая, айцоў Аляксандра й Якуба ды д-ра А. Вярбіцкага. Уладыка Мікалай прачытаў малітву за беларускі народ.

Праграму акадэміі вёў др. Янка Запруднік.

Праклямацыі з нагоды сьвяткаваньня чыталі: ад мэра гораду Нью Ёрку, Эдварда Кача — Раіса Станкевіч, ад губэрнатара штату Нью Ёрку, Г'ю Кэры — Вера Запруднік.

Праклямацыі дня Беларускае Незалежнасьці былі атрыманыя ад губэрнатараў штатаў Канэктыкэт, Вірджынія й Масачусэтс. Свае прывітаньні прыслалі таксама: Згуртаваньне Беларусаў Канады з подпісам Раісы Жук-Грышкевіч, сакратара; Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі з подпісам старшыні Яна Міхалюка; Беларускі Вызвольны Фронт з подпісам Д. Касмовіча, старшыні; Беларускае Аб'еднаньне Новай Паўдзённай Валіі з падпісам старшыні Нарушэвіча; Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку з падпісам старшыні К. Мерляка; Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага з падпісам старшыні Васіля Пунтуса; Сьвяткавальны Камітэт у Лёс Анджэлесе з падпісам старшыні Часлава Найдзюка; Канфэдэрацыя Амэрыканскіх Этнічных групаў у Вашынгтоне з подпісам Эдварда Андрусіка, старшыні; Вышэйшае Казацкае Прадстаўніцтва з подпісам В. Г. Гласкова, старшыні.

Рэфэраты на тэму дня прачыталі праф. А. Адамовіч (пабеларуску) і старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Ю. Азарка (паангельску).

З прывітальнымі прамовамі выступілі госьці: старшыня Камітэту Паняволеных Народаў Горст Уліх, які ў знак прызнаньня ролі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў змаганьні за свабоду паняволеных народаў перадаў ўзнагародную грамату старшыні БАЗА А. Шукелайцю. Ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту у Амэрыцы выступіла сп-ня С. Бокшованы; ад арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў" прамаўляла др. Валянтына Калынік; ад Амэрыканскіх Прыяцеляў Анты-Бальшавіцкага Блёку Народаў — сп-ня Р. Потэр; ад Славэнскай Лігі і ад Рады Славянскай Спадчыны ў Амэрыцы — сп. Сымон Крэгер. Сярод гасьцей быў таксама Латгалец сп. Станіслаў Дукальскіс, прыяцель Беларусаў.

У мастацкай частцы выступілі: Павал і Коля Рамана і Антон Бартуль з дэклямацыяй паэмы Янкі Купалы „Курган". Падрыхтавала выступ сп-ня Вера Бартуль, якая таксама прадэклямавала Купалаў верш „Перад будучыняй".

Багдан (Данчык) Андрусышын выканаў пад гітару тры песьні: „Бярозка", „Каля млына" і „У гушчарах".

Закончылася сьвяткаваньне прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля афіцыйнае часткі адбылося прыняцьцё, зь якога не сьпяшаліся разыходзіцца: прыемна было пагутарыць з гасьцьмі ды даўно ня бачанымі суродзічамі.

**Раіса Станкевіч**



Зьлева направа: Павал і Коля Рамана і Антон Бартуль — дэкляматары.

## КЛІЎЛЕНД, ЗША

Кліўлендзкі аддзел БАЗА адзначыў дзень Беларускай Незалежнасьці 4 красавіка. У царкве БАПЦ а. Міхась адслужыў літургію й малебен, у часе якога два беларускія вайскоўцы трымалі беларускі й амэрыканскі сьцягі. У сваёй патрыятычнай казані а. Міхась адзначыў ролю сакавіковых урачыстасьцяў.

Па багаслужбе ўдзельнікі сабраліся ў царкоўнай залі на акадэмію, якая пачалася амэрыканскім гімнам у выкананьні сп-ні Іры Каляды пад акампанімэнт свае дачкі. Старшыня аддзелу БАЗА прывітаў удзельнікаў урачыстасьці ды прадставіў вядомую ў Кліўленьдзе й таленавітую Олю Лукашэвіч, якая вяла далей праграму.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў др. Вітаўт Кіпель. Ён насьветліў гістарычныя падзеі, што папярэднічалі Сакавіковаму Акту ды прааналізаваў патэнцыял беларускага нацыянальнага руху.

З прамовай выступіў былы мэр гораду Кліўленду сп. Ралф Пэрк, ведамы дзеяч Рэспубліканскае партыі й кіраўнік нацыянальных рухаў у Кліўленьдзе. Прамоўца гаварыў аб патрэбе пераканаць прэзыдэнта Амэрыкі Рэйгана й ягоны кабінэт у тым, што праблема нацыянальнасьцяў — жыцьцёва важная праблема. Падтрымваньне нацыянальна-вызвольных рухаў, сказаў сп. Пэрк, павінна быць заданьнем Злучаных Штатаў. „Я спадзяюся, — сказаў прамоўца, — што дажыву да часу, калі паняволеныя народы Савецкага Саюзу здабудуць волю і Беларусь станецца незалежнай". Заля адказала на гэтае пажаданьне бурнымі воплескамі.

Прадстаўнік мэра гораду Кліўленду Георга Вайновіча ў сваім выступленьні сказаў, што хоць над гарадамі Беларусі Менскам, Віцебскам, Смаленскам не разьвіваюцца беларускія сьцягі, затое сёньня беларускі сьцяг узьняты над Кліўлендам і адмысловай праклямацыяй усе ўстановы закліканыя ўшанаваць дзень Беларускае Незалежнасьці.

Сп. Вацлаў Гыўнар зачытаў праклямацыю мэра гораду.

Наш даўны прыяцель, былы радны гораду Кліўленду, а цяпер дырэктар незалежнае кліўлендзкае радыястанцыі сп. Тодар Сьліва, вітаючы нас, сказаў: „Мы, Амэрыканцы, нарабілі ў мінулым шмат палітычных памылак. Спадзяюся, што ў дачыненьні да Беларусі й ейнага нацыянальна-вызвольнага руху гэтыя памылкі будуць выпраўленыя".

Далей сп-ня Оля Лукашэвіч прадставіла д-ра Міхала Паппа, дырэктара Інстытуту Дасьледваньня Савецкага Саюзу і Ўсходняе Эўропы пры ўнівэрсытэце імя Джона Караля ў Кліўленьдзе. Таксама прадставіла карэспандэнта газэты „Кліўленд Прэс", якая заўсёды прыхільна зьмяшчала інфармацыю пра Беларусь ды беларускую грамаду ў Кліўленьдзе, і д-ра Карла Бануты з Кліўлендзкага Штатавага Ўнівэрсытэту.

Мастацкая частка ўрачыстасьці складалася зь песьняў у добрым выкананьні жаночага ансамблю пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Калошы.

Трэба прызнаць, што сёлетняя сакавіковая ўрачыстасьць была найбольш удалай за апошнія гады.

Кожны з удзельнікаў пакідаў сьвяткаваньне з пачуцьцём глыбокага маральнага задаваленьня за праробленую працу.

Акадэмія закончылася белару нацыянальным гімнам.

**П.**

### БЕЛАРУСЫ КЛІЎЛЕНДУ - НОВАЯ КНІЖКА

Другая частка сакавіковага сьвяткаваньня была прысьвечаная выхаду з друку манаграфіі пра Беларусаў Кліўленду. Кніжка гэтая, аўтарства д-ра Вітаўта Кіпеля з уступам праф. Томаса Бэрда й праф. Карла Бануты, адлюстроўвае гісторыю заснаваньня й жыцьцё беларускае кліўлендзкае калёніі. Др. Кіпель расказаў аб працы над кніжкай ды мэце ейнага выпуску. Далей выступіў праф. Бануты, загадчык катэдры эканомікі Кліўлендзкага Штатавага Ўнівэрсытэту ды галоўны рэдактар сэрыі манаграфіяў аб нацыянальных групах Кліўленду. Др. Бануты сказаў: „Чытаючы рукапіс кнігі, я пабачыў, як шмат патрапляе зрабіць раўнуючы невялікая, але адданая справе грамада. Беларусы Кліўленду могуць служыць прыкладам адданасьці і новай бацькаўшчыне і справе пашырэньня беларускіх ідэалаў — ідэяў беларускага народу". Праф. Бануты выказаў спадзяваньне, што выхад гэтае першае кніжкі пра Беларусаў Кліўленду паспрыяе далейшаму вывучэньню Беларусаў усяе Амэрыкі.

Др. Кіпель ўручыў экзэмпляры кніжкі прадстаўніком друку, кліўлендзкага муніцыпалітэту, прадстаўніку гарадзкое бібліятэкі ды падпісаў экзэмпляры шмат каму зь Беларусаў, якія набылі кнігу на ўрачыстасьці.

Манаграфію Byelorussian Americans and Their Communities of Cleveland можна набыць, пераслаўшы дзесяць даляраў у:

Cleveland State University
Ethnic Heritage Studies
Attn: Dr. Karl Bonutti
Cleveland, Ohio 44115

або:

11022 Webster Road
Strongsville, Ohio 44136

**С. Полацкі**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ БССР

Паводля даведніка Цэнтральнага Статыстычнага Ўпраўленьня СССР „Народное хозяйство СССР 1980 году" колькасьць назоваў кнігаў і брашураў выданых пабеларуску ў Беларускай ССР выглядае гэтак:

| Год | Друк. адзінкі |
|---|---|
| 1940 | 383 |
| 1965 | 299 |
| 1970 | 430 |
| 1975 | 479 |
| 1980 | 372 |

Значыцца, у 1980 годзе паводля ліку назоваў кнігаў і брашураў, выданых пабеларуску, БССР вярнулася назад да ўзроўню, што быў перад 1940 годам. Гэтак выглядае адзін з аспэктаў „росквіту" нацыянальных культураў у Савецкім Саюзе.

Вось чаму савецкая статыстыка блізу заўсёды падае агульны лік кніжак і брашураў — беларускіх і расейскіх разам, каб гэткім спосабам прыхаваць сталы рост расейскамоўных выданьняў супраць беларускамоўных.

# ПАМЯЦІ РЫГОРА БЯРОЗКІНА

Із спазьненьнем, але ад гэтага зь няменшым жалем, даведаўся я ў маёй ньюёрскай далечы аб перадчаснай сьмерці Рыгора Бярозкіна. Я добра знаў і ведаў яго. Наяжджаючы ў Менск, я бываў у Грышы ўдома — ягоныя сябры звалі яго Грышам — і сустракаў яго ў пісьменьніцкіх дамох творчасьці.

Высокі, зграбны, сьветлавокі, у маладосьці худы, пазьней крыху паўнаваты, Бярозкін ішоў, як-бы насустрач жыцьцю, быў вясёлым і добрым чалавекам і пры гэтым — постацьцю бязумоўна трагічнай.

Бліскуча пачаўшы літаратурную дзейнасьць сваю, 20-гадовым хлапцом быў запрошаны ў 1938-ым годзе на адказную ды ганаровую пасаду загадчыка аддзелаў крытыкі часапісу „Полымя рэвалюцыі" й газэты „Літаратура і Мастацтва", а ў 1940-ым годзе на хлусьлівы данос трапляе ў падвалы менскага НКВД разам з паэтам Зэлікам Аксэльродам і празаікам Элі Каганам.

Вайна вызваліла Бярозкіна, замяніўшы яму турму на штрафны батальён. Праўда, вызваленьне было, гэтак кажучы,умоўнае: штрафнікі жывымі з баёў ня выходзілі — іх кідалі ў самае пекла, але Грышу Бярозкіну пашанцавала — выжыў і нат зарабіў арданы і ахвіцэрскую годнасьць. І пасьля перамогі, у рангу капітана, застаўся служыць перакладчыкам зь нямецкае і ў нямецкую ў савецкай ваеннай адміністрацыі ў Бэрліне.

Я сустрэўся з Грышам Бярозкінам напярэдадні другога арышту. У чэрвені 49-га году ў Менску адчыніўся першы паваенны зьезд Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Я ўжо стала жыў тады ў Маскве, ды прыехаў на зьезд у складзе маскоўскае дэлегацыі, якую ўзначальваў Канстантын Сіманаў, які быў тады ў вялікім фаворы. Менск яшчэ быў зруйнаваны, толькі пачаў адбудоўвацца, але ўжо горда стаяў на Савецкай вуліцы адбудаваны найпершым самы галоўны будынак гораду, цяжкі й грубы, з магутнымі калёнамі гмах НКВД, як-бы кажучы мянчанам: „глядзеце й матайце на вус, — у вас яшчэ няма даху над галавой, а мы, чэкісты, працуем ужо ў палацы". І можа з прычыны таго, што ня было другога памешканьня, або — каб пісьменьнікі ня вельмі распушчалі языкі, пісьменьніцкі зьезд адбываўся ў чэкісцкім палацы, у ягонай актавай залі.

Зьезд быў няцікавы й нудны, і пісьменьнікі часта забіраліся ў буфэт і папівалі піўцо, ды й закусь там была не благая, асабліва як на той час. Там я й сустрэўся з Грышам Бярозкінам, які прыехаў на зьезд з Бэрліну і быў апрануты ў вайсковую форму.

Бярозкін быў вельмі сумны, непадобны да сябе. Ужо прагучэлі пагромныя пастановы ЦК КПСС у ідэялягічных пытаньнях і пастанова ЦК камуністычнае партыі Беларусі аб працы Беларускага Саюзу Пісьменьнікаў ды літаратурна-мастацкіх часапісаў „Полымя" й „Беларусь". Пачалася славутая кампанія змаганьня з гэтак званым касмапалітызмам, а ў існасьці — разгром інтэлігенцыі. І сумнасьць Бярозкіна ня цяжка было зразумець: ён адчуваў і ведаў, што ні арданы ні мэдалі, атрыманыя ім на вайне, ні адданая служба па вайне ня могуць уратаваць яго ад арышту — перадваенны арышт, бязумоўна, выкліча другі, паваенны. І Бярозкін не памыліўся — не пасьпеў ён вярнуцца ў Бэрлін, як яго арыштавалі. Толькі сьмерць Сталіна зьвярнула Бярозкіна ў Менск, дзе біты й перабіты, таленавіты ды ўжо немалады крытык пачаў нанава пісаць і друкавацца.

Бярозкін фанатычна любіў паэзію наагул, і беларускую асабліва. А ўлюбёным ягоным паэтам, яшчэ зь перадваенных часоў, быў Аркадзь Куляшоў. Ён мог гадзінамі чытаць вершы ягоныя напамяць. І гэтую любасьць сваю, гэтую прыхільнасьць крытык захаваў да канца. Куляшоў, пакуль быў жывы, памагаў Бярозкіну парадамі, не даваў яго вельмі ў крыўду. Тым ня менш, таленавіты крытык заставаўся ў крыўдзе да апошніх дзён жыцьця. Яго друкавалі, выдавалі асобнымі кнігамі цікавыя й глыбокія манаграфіі ягоныя, прысьвечаныя Купалу, Багдановічу, Куляшову, але трымалі яго ў засені.

Пасьля сваіх адседак Бярозкін ніколі ўжо не займеў пасады загадчыка літаратурных аддзелаў часапісаў, як перад вайной. Проста быў супрацоўнікам часапісу „Неман" — я бачыў там яго, заныранага ў ліс-ты чытачоў. Ня выбіралі Бярозкіна ні ў праўленьне Саюзу пісьменьнікаў, ні ў праўленьне літфонду. Не давалі арданоў і літаратурных прэміяў.

Крытык-жа ён быў выдатны, нумар адзін. Гэта аб ім, аб Грышу Бярозкіну выдатны ананімны аўтар „Сказу пра Лысую гару", сказаў, гаворачы аб літаратурных прэміях:

Наогул з прэміямі туга —  
Дайсьці ня проста да вянца:  
Па зачарованаму кругу  
Яны ўсе ходзяць без канца.

Пакуль разы са два ня меней  
Абыйдуць цалкам гэты круг, —  
Дык будзь ты, Грышка, тройчы гэні,  
Не дачакаўшы, спусьціш дух!

Так і здарылася: Бярозкін не дачакаўшыся ні прэміі ні гонару, спусьціў дух!

З савецкіх нэкралёгаў цяжка дый нельга зразумець, ад чаго чалавек памёр, напісана — „пасьля працяглай і цяжкай хваробы". Але чуткі даходзяць нат да Нью Ёрку, што год ці два таму Грыша захварэў псыхічна, можа гэта й ёсьць тая „працяглая хвароба". Захварэць псыхічна ў савецкіх абставінах чалавеку чуламу душой ня так ужо й цяжка. Але як-бы там ні было, з жыцьця адыйшла яшчэ адна ахвяра сталінізму й саветызму, памёр чалавек, як піша аб Нябожчыку Рыгор Барадулін у вельмі прачулай сваёй эпітафіі, „які валодаў амаль забытым апошнім часам у нашым літаратурным асяродзьдзі ўменьнем радавацца ўдачай калегі, рабіць чужы посьпех уласнай радасьцю".

**Андрэй Клёнаў**

# „АБАРОНА": ЯК У ЛУЖЫНУ...

Выдавец-рэдактар двумоўнага „Беларускага Часу", трапіўшы ў Вашынгтон на інфармацыйны інструктаж для прадстаўнікоў друку ў Дзяржаўным Дэпартаманьце ЗША, задаў гэткае пытаньне (падаём у перакладзе з ангельскае):

„Шмат хто трымаецца пагляду, што адзіная рэч, якая мае значаньне ў канцавым выніку, і адзіны спосаб не дапусьціць да ядзернае вайны — гэта разьдзяліць СССР перад тым як настане Трэйцяя Сусьветнай вайна, ды што Злучаныя Штаты павінны адыграць першарадную (vital) ролю ў гэткім разьдзяленьні (для свае-ж собскае бясьпекі). Дык як глядзіць Дзяржаўны Дэпартамант на гэткае разьдзяленьне Савецкага Саюзу?" („Час", нр. 36, сакавік 1982)

„Беларускі Час" пачуў собскімі вушамі адказ на сваё пытаньне: спроба Амэрыкі разьдзяліць Савецкі Саюз значыць вайну. Цяпер і выдавец „Часу" ведае гэта.

Але „Час" не зразумеў, як выглядае, значаньня тае рэакцыі з боку ўдзельнікаў інфармацыйнае сустрэчы, якою тыя сустрэлі ягонае пытаньне.

„Час" сваё вышэй працытаванае выказваньне папярэдзіў гэткім уступам:

„Госьці задалі рад пытаньняў, але адно пытаньне, якое, калі меркаваць паводля спантанічнага шопату па цэлай аўдыторыі, выклікала, як выглядае, найбольш зацікаўленьня, было зададзенае д-рам Р. Гарошкам ад 'Беларускага Часу' ".

Інтэрпрэтаваць той „спантанічны шопат па цэлай аўдыторыі", як „зацікаўленьне" пытаньнем — гэта значыць проста не разумець недарэчнасьці свайго пытаньня.

Ня больш глузду і ў „камэнтары" „Часу" ў тым-жа нумары аб тым, што ў „Голасе Амэрыкі" „анты-беларуская кліка" (які „дыпляматычны" выраз!) ня ўводзіць беларускае мовы на тэй аснове, што гэта было-б „умешваньнем у нутраныя справы СССР". А ўкраінская, узбэцкая, азэрбайджанская, грузінская мовы „Голасу Амэрыкі" — гэта ня „ўмешваньне ў нутраныя справы СССР"? Дзе-ж лёгіка?!

Ад гэткае „абароны" беларускіх інтарэсаў беларуская справа можа толькі страціць.

# ПОШТА „БЕЛАРУСА"

(Працяг з 4-ай бач.)

было-б ладна павялічаць абыймо газэты, ад чаго цікавейшай яна ня была-б — былі-б адно даўжэйшыя карэспандэнцыі ды бясконцыя паўторы. Функцыя рэдакцыі й палягае на тым, каб матар'ял кандэнсаваць ды запаўняць нумар як мага больш разнастайным зьместам. Мы чуем сталыя нараканьні, што артыкулы ў газэце задаўгія.

У Вашым допісе Рэдкалегія ня прыпісала Вам анічога, чаго Вы не казалі. Ваш допіс быў адно скарочаны, як гэта рабілася цірааз з папярэднімі Вашымі матар'яламі, ды ад рэдакцыі дадзенае паясьненьне пра аспрэчваньне ў БАПЦ епіскапства а. Бруцкага.

Вашае супрацоўніцтва з газэтай Рэдкалегія цэніць і спадзяецца, што Вы перадумаеце ды будзеце, як і раней, прысылаць свае карэспандэнцыі пра беларускае жыцьцё ў Адэляйдзе.

**Сп. Язэпу Пазьняку**
**ў Голідэй, Флярыда (ЗША)**

Мы ня прыгадваем, каб у газэце „Беларус" была, як Вы пішаце абвестка, „у якой было сказана, што каб утрымаць вялікі (?) стандарт газэты — фатаграфіі аматараў-фатографаў зьмяшчацца ня будуць". У кажным блізу нумары газэты аматарскія фатаграфіі зьмяшчаюцца, як гэта Вы самі бачыце.

Што да Вашага пажаданьня, каб „Беларус" час-ад-часу пісаў аб Беларусі", дык мы гэта ў меру магчымасьцяў робім, і далей будзем рабіць.

## ВЫСТАЎКА Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

**У царкоўнай залі прыходу БАПЦ** у Кліўленьдзе была арганізаваная ў сакавіку сёлета выстаўка беларускага этнаграфічнага мастацтва ды беларускага друку ў Амэрыцы — на ўшанаваньне стагодзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Выстаўка адзначалася асабліва багатым наборам, дзесяткоў два, даматканых дзяружак, што становяць, бадай, унікальную ў Амэрыцы калекцыю гэтага віду беларускага народнага мастацтва.

## ВЫСТАЎКА КРАШАНАК

У заходнянямецкім горадзе Ляймэне 20-21 сакавіка сёлета адбылася выстаўка крашанак. Беларускі Музэй у Ляйдэне меў на выстаўцы свой стол з крашанкамі й мастацкімі рэчамі. Арганізатары выстаўкі далі для яго самае лепшае месца. Наведвальнікі з зацікаўленьнем аглядалі беларускі стэнд, на якім стаяла беларуская хатка з нашым сьцяжком, а на сьцяне вісела Пагоня й карта Беларусі. На сьцяне было выпісана панямецку: „Беларускі Вялікодны стол".

**Ж.**

## АРТЫКУЛЫ Р. БЯРОЗКІНА

„Артыкулы Р. Бярозкіна, прысьвечаныя пытаньням паэзіі, узьнімалі аўтарытэт беларускага крытычнага слова, рабілі яго дзейсным фактарам літаратурнага жыцьця. За паэзію праўды і праўду паэзіі, за мастацтва сталай сацыяльнай думкі і высокага эстэтычнага ўзроўню, за прафэсійна строгі крытычны аналіз літаратуры — вось у чым быў пафас выступленьняў Р. Бярозкіна." — **М. І. Мушынскі, Беларускае савецкае літаратуразнаўства**, Менск, 1979, б. 57.

## ІНФЛЯЦЫЯ Й „БЕЛАРУС"

Пачынаючы ад гэтага нумару, кошт друку аднаго выпуску „Беларуса" будзе станавіць 850 даляраў, г. зн. на 40 дал. больш.

Дадаўшы кошт клішаў і рассыланьня, нумар газэты каштуе 1210 даляраў.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД КНІГІ ПРА Я. КУПАЛУ

У сакавіку 1982 г. былі складзеныя ахвяры:

1. Беларускі Грамадзкі Цэнтар у Саўт Рывэры ............ $ 100.00
2. М. В. М. ............ $ 25.00

**Разам: $ 125.00**

Агульная сума $ 5.845.93
павялічылася да $ 5.970.93

**Паважаным Ахвярадаўцам шчырыя дзякуй!**



**СЬВ. ПАМ.**

**АЛЯКСАНДАР Ш СТАГАНОВІЧ**

Неспадзявана 21 сакавіка 1982 году адыйшоў у вечнасьць наш дарагі сын, брат, унук, пляменьнік Аляксандар Ш Стагановіч, народжаны 6 студзеня 1952 г. у Нямеччыне, пахаваны 24 сакавіка побач з бацькам на Беларускім магільніку ў Іст Брансьвіку, пакінуўшы ў глыбокім смутку ўсю радню й шмат сяброў ды сяброўак. Труна Нябожчыка, вэтэрана амэрыканскае арміі, была пакрыта амэрыканскім сьцягам.

**Сям'я**



**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**

**АПАЛЕНІЯ З РАДКЕВІЧАЎ САВЁНАК**

пэдагог-навуковец, сябра Рады БНР, сябра БАЗА, нарадзілася 8-га кастрычніка 1901-га году на Лагойшчыне, памерла 10-га красавіка 1982-га году ў Памоне штату Нью-Джэрзі ды пахаваная на беларускіх могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Іст Брансьвіку, аб чым з глыбокім сумам паведамляе й выказвае спачуваньне Сям'і Нябожчыцы.

Галоўная Управа
Беларуска-Амэрыканскага
Задзіночаньня

## ПАНІХІДА ПА СЬВ. ПАМ. І. МУХУ

13-га сакавіка сёлета ў царкве БАПЦ у Кліўленьдзе зь ініцыятывы былых вучняў Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы Каці Валюкевіч, Аўгена Кабякі й Кастуся Калошы а. Міхась Страпко адслужыў паніхіду па сьв. пам. былым выкладчыку Гімназіі Івану Муху. Нябожчык быў вельмі здольным настаўнікам і карыстаўся вялікай пашанай сярод сваіх вучняў. Ён узгадаваў шмат каго зь беларускае моладзі на добрых грамадзянаў, патрыётаў свае Бацькаўшчыны. Шкада толькі, што некаторыя ягоныя вучні ня былі на паніхідзе, каб ушанаваць ягоную памяць.

**Аўген Кабяка**



# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У сакавіку 1982 г. прысланыя падпіска й ахвяры:**

1. В. Цьвірка (Нямеччына) $50.00
2. М. Замковіч (Францыя) .... 30.00
3. Н. і Г.О. ............ 30.00
4. С. Шабовіч ............ 25.00
5. М. Ягаўдзік ............ 25.00
6. Сп-ня Н. Кіт ............ 25.00
7. М. Наўмовіч (Францыя) .... 20.00
8. Х.Ш. ............ 20.00
9. Н. Латушкін ............ 15.00
10. М. Пашкевіч ............ 15.00
11. І. Л. Лютэнко ............ 12.00
12. В. Захаркевіч ............ 10.00
13. П. Мельяновіч ............ 10.00
14. Арх. Я. Строк ............ 5.00

**Разам:** ам. дал. 292.00

**Праз прадстаўніка газэты „Беларус" у Нью Джэрзі сп. Б. Даніловіча:**

1. Упр. Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі ............ 25.00
2. А. Каравайчык ............ 20.00
3. А. Дубяга ............ 20.00
4. Д. Дзядовіч ............ 20.00
5. В. Машанскі ............ 20.00
6. А. Субота ............ 20.00
7. А. Даніловіч ............ 15.00
8. А. Непеін ............ 15.00
9. М. Мядзейка ............ 12.00
10. Я. Місюль ............ 12.00
11. А. Балкоўскі ............ 12.00
12. В. Харавец ............ 12.00
13. В. Кабушка ............ 12.00
14. Я. Цупрык ............ 12.00
15. С. Гутырчык ............ 10.00
16. Л. Кляйнбах ............ 10.00
17. Ф. Беразоўскі ............ 10.00

**Разам: $ 257.00**

**КАНАДА**

1. Др. Б. Рагуля ............ 120.00
2. Ул. Цялеш ............ 30.00

**Разам** к.д. 150.00
**У ам. валюце $ 121.32**

3. Б. Ліпчонак ам. дал. 20.00

**Разам з Канады: ам. дал. 141.32**
**У сакавіку перасланa $ 690.32**

**Ахвяры складзеныя на сьвяткаваньні 64-ых угодкаў Акту 25-га Сакавіка ў Нью Ёрку:**

1. Ф. Бартуль ............ $100.00
2. Др. Ул. Набагез ............ 100.00
3. Др. А. Вярбіцкі ............ 50.00
4. В. Станкевіч ............ 30.00
5. А. О. Романо ............ 25.00
6. Ул. Дудка ............ 20.00
7. К. Мярляк ............ 20.00
8. Л. Норык ............ 20.00
9. М. Кунцэвіч ............ 20.00
10. П. Пікулік ............ 20.00
11. Р. Станкевіч ............ 20.00
12. Р. В. ............ 20.00
13. А. Дубовік ............ 15.00
14. Арх. Мікалай ............ 10.00
15. а. Аляксандар ............ 10.00
16. а. Якуб ............ 10.00
17. М. Абрамчык ............ 10.00
18. А. Андрыца ............ 10.00
19. Ю. Азарка ............ 10.00
20. Я. Азарка ............ 10.00
21. Б. Даніловіч ............ 10.00
22. В. Кажан ............ 10.00
23. Я. Каханоўская ............ 10.00
24. С. Крэгер ............ 10.00
25. А. Русак ............ 10.00
26. З. Станкевіч ............ 10.00
27. А. Шукелайць ............ 10.00
28. А. Сільвановіч ............ 10.00
29. В. Тумаш, малодшы ............ 10.00
30. В. Тур ............ 10.00
31. Др. Я. Запруднік ............ 10.00
32. Ананімна ............ 10.00
33. Н. Абрамчык ............ 5.00
34. А. Балкоўскі ............ 5.00
35. А. Дубяга ............ 5.00
36. П. Кажура ............ 5.00
37. А. Костэр ............ 5.00
38. А. Ліхач ............ 5.00
39. Я. Літвінка ............ 5.00
40. Б. Яновіч ............ 5.00
41. А. Яновіч ............ 5.00
42. П. Міpановіч ............ 5.00
43. Н. і Г. О. ............ 5.00
44. А. Субота ............ 5.00
45. К. Верабей ............ 5.00
46. М. С. ............ 5.00
47. Я. Юхнавец ............ 3.00

**Разам: $ 723.00**
**Усяго разам у сакавіку $1,413.32**

**Усім ахвярадаўцам і падпішчыкам шчыры дзякуй!**

# BIEŁARUS

**Monthly. Published** by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.


## BROADCASTS IN BYELORUSSIAN BY VOA: "REQUIRE IMMEDIATE ATTENTION"

A national conservative weekly, **Human Events** (Feb. 27, 1982), in a lengthy article by George Woloshyn (who served on the Reagan presidential transition team), on the need to overhaul the radio broadcasts beamed into the Soviet Union, writes about the Byelorussian language as follows (p. 12):

"Particular attention should be directed in strengthening language broadcasts toward major non-Russian nationalities and religious groups in the USSR such as Ukrainians, Byelorussians, the Baltic nations, and the Moslems of Central Asia. A continued sense of national identity and spiritual unity among these groups represents a major source of Soviet weakness which must be factored into our national security equation.

"The Ukrainian and Byelorussian broadcasts, in particular, directed as they are to over 25% of the most strategically and geopolitically placed population of the USSR, require immediate attention."

We heartily welcome this incisive and timely comment by **Human Events** and call attention to the fact that various Byelorussian - American organizations have repeatedly petitioned, over the last two decades, the management of the Voice of America and the State Department to introduce the Byelorussian-language broadcasts into the VOA programming. Given the reluctance of the appropriate authorities to do so, perhaps it is time for some sympathetic legislators in the U.S. Congress to introduce a bill mandating the Byelorussian-language broadcasts by the Voice of America.

## ACCOMODATION FOR M. KUKABAKA GUARANTEED

Great Britain (ABGB) has sent a letter to the Electric Trade Union in London (Mr. Frank Chapple, Secretary) expressing gratitude for the support of the Association's efforts in assisting the Soviet Byelorussian dissident, Michal Kukabaka, who is seeking to leave the Soviet Union. In his letter of April 2, 1982, to Mr. Chapple, Mr. Jan Michaluk, Chairman of the ABGB, stated:

"We confirm that should Mr. Michal Kukabaka be able to come to the United Kingdom, we would be prepared to guarantee accomodation and maintenance for him during his stay so long as this may be necessary."

The leadership of both the Association of Byelorussians in Great Britain and the British Electric Trade Union should be praised for their noble offering of help to Michal Kukabaka who has suffered so much for his convictions and his courageous stand in defending his views. We can only hope that the Soviet authorities will find it unnecessary to continue torturing the Byelorussian worker any longer for his beliefs and let Michal Kukabaka go. We are also certain that many of his countrymen in other Western countries will readily contribute to the Michal Kukabaka fund should he find himself in Great Britain.




**U.S. Rep. Frank Annunzio (D-11th Congressional District of Illinois) receives a plaque from Mrs. Vera Romuk and Mr. William Puntus in recognition of his services to the Bielarusian Community in Chicago. Congressman Annunzio has been promoting our original name — BIELARUS — among his colleagues in Congress for many years. The presentation was made at the commemoration of the 64th Anniversary of the Declaration of the Independence of Bielarus at which Congressman Annunzio was an honored guest and speaker. The affair was held on March 28 and was sponsored by the Bielarusian Coordinating Committee of Chicago, Illinois.**

## REMARKS OF HONORABLE FRANK ANNUNZIO

It is a genuine pleasure for me to be here today, and I want to thank you from the bottom of my heart for your generosity in recognizing me with this beautiful plaque you have presented to me in recognition of my services to our Bielarusian community in Chicago. You have conferred a great honor on me, and I want all of you to know how deeply grateful I am for this recognition.

We are here today to join our hearts and our minds with the courageous Bielarusian people, who have never lost their fervent desire for freedom, and to commemorate the 64th anniversary of the declaration of independence of Bielarus.

As we all know, the Russian communist government does not allow the celebration of this anniversary in Bielarus itself, but instead, it continues to push the myth that Bielarus is a voluntary member of the Soviet Union, a union that is nothing more than an old-fashioned colonial empire, held together by brute force.

Tragically, the national culture, religion, and language of the Bielarusians are suppressed by the Soviets. Furthermore, the working people are slaves of the government because the communist system has forcefully imposed itself on the Bielarusian economy.

The national income of Bielarus goes directly into the hands of the communist overlords and they use it to find their weapons programs in order to increase their influence on a global scale. In this way, the communists continue to threaten free nations everywhere.

The world's attention has been focused on Soviet atrocities in Afghanistan and Poland, but not too many are familiar with the fact that some 300,00 Bielarusians live in Poland and are directly affected by the brutal military government that has been installed there by Moscow. The Bielarusian weekly newspaper in Poland has been shut down, the Bielarusian Cultural Society has been suspended, and any activities by the Bielarusian Student Association have been forbidden.

On December 15, the Congress approved a resolution in support of the Solidarity movement in Poland and its attempt to bring human dignity to Poland. The resolution, which was adopted unanimously, places the responsibility for the present reign of terror in Poland squarely on the Soviet Union.

Additionally, on March 2, the Congress passed a resolution unanimously expressing the sense of the Congress that the government of the Soviet Union should respect the rights of its citizens to practice their religion and to emigrate, and that these matters should be among the issues raised at the next meeting of the United Nations Commission on Human Rights in Geneva.

We as Americans must never be silent about the brutal war against freedom in Bielarus or in Poland. We must continue to voice our support and solidarity with the captive nations. And we must continue to join with the brave people of Bielarus in their prayers for human dignity, human rights, and self-determination as a free nation.

Thank you.

# BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY 1982 IN THE U.S. CONGRESS

Representatives of American people in the United States Congress expressed their strong support for Byelorussia's freedom and independence on the occasion of the 64th anniversary of the proclamation of the Byelorussian Democratic Republic. The anniversary was marked by Byelorussian Americans at the end of March and beginning of April 1982.

Following are excerpts from the statements as they appeared in the Congressional Record.

**Congressman Frank Anunzio from Illinois** (March 23, p. H 1077):

The Russians want the Bielarusian people to forget their past, their history, their culture, and their language. They want them to forget who they are and who they were. They, the Russians, write new books, manufacture a new culture, and invent a new history for the Bielarusian people thus poisoning their minds and liquidating the Bielarusian people.

Mr. Speaker, the United States has benefited enormously from the courage and vitality of Bielarusian Americans. These gifted citizens are a living reminder to the world of what an atmosphere of freedom can do for the spiritual, economic, and intellectual lifeblood of a nation. It is with pride that I participate in the 64th anniversary commemoration of the declaration of independence of Bielarus and I extend my warmest greetings to those Americans of Bielarusian descent in my own 11th District I am honored to represent, in Chicago, and all over this Nation who are commemorating this stirring event in the history of freedom.

**Congressman Mario Biaggi from New York** introducing Bishop Iziaslav Brucky who read the prayer in the House of Representatives on March 25; p. H 1117):

The message we should contemplate today on Byelorussian independence day is a simple one. We must stand in solidarity with all those who are denied freedom. The best way for our people never to grow complacent about the freedom we enjoy is to envision what life is like in Byelorussia or the other so-called captive nations of the world.

Let us join with the Byelorussian American community, which today boasts some 200,000 members, in commemorating Byelorussian independence day. Let us particularly lend our moral support to the people of Poland, including some 300,000 Byelorussians within Poland, as they continue their struggle for freedom from martial law.

**Senator Alan J. Dixon from Illinois** (March 25, p. S 2823):

Mr. President, March 25 marks the 64th anniversary of the Proclamation of the Byelorussian National Republic. This is an important occasion in the history of the Byelorussian people, and I am proud to join in this year's commemoration.

Shortly after the March 25, 1918, proclamation in Minsk, Lenin colonized this state and formed the Byelorussian Soviet Socialist Republic.

So, as in previous years, this year's occasion is observed with solemnity for the people of Byelorussia. But, it is also marked with the hope that they will soon be free from the control of Soviet domination.

The Byelorussian Coordinating Committee of Chicago, Ill., will commemorate this event in order to lend support and encouragement to the Byelorussian people, and I am honored to lend my voice to theirs.

**Congressman Edward J. Derwinski from Illinois** (March 25, p. E 1274):

Throughout their history, the Byelorussian people have transmitted from generation to generation their national identity through their cultural achievements, language, and rich heritage. The knowledge of what it is to be free and the determination for this renewed freedom continues to inspire these valiant people in their dreams of reestablishing their homeland as an independent nation.

The Byelorussians are not allowed to learn of the nature of Soviet expansionism throughout the world and the vitality of their respective cultural heritages in the United States because for years the Byelorussians in the Soviet Union have not had any VOA broadcasts in their own language.

I trust that we can reassure those brave people whose human rights and cultural heritage are held captive, that they will continue to receive our encouragement for their ultimate goal of self-determination.

**Congressman William J. Hughes from New Jersey** (March 25, p. 1281):

To underscore our support for Byelorussians, let us speak out in favor of the inclusion of Byelorussians in Voice of America (VOA) programing. For years, Byelorussians in the Soviet Union have not heard VOA broadcasts in their own language. To include their language in the VOA would cultivate closer relations between the Byelorussian people and American citizens of Byelorussian origin.

**Congressman Joseph P. Addabbo from New York** (March 25, p. E 1283):

One of the biggest problems in Soviet-controlled nations like Byelorussia is the Russification process, by which all cultural and nationalstic activities and expressions are systematically suppressed, and attempts are made to transform individual nations into a homogenous state. This is accomplished through the destruction of national monuments, changing the names of schools, parks, and streets to the names of Soviet military, political, and cultural leaders, and the suppression of national religions. In Byelorussia, the slightest expression of nationalistic spirit in public is immediately eliminated through severe persecution. However, the celebration of independence day continues as an expression of the endurance of the goal of freedom.

I would like, at this time, to raise a point which is very important to Byelorussians in the Soviet Union and American-Byelorussians alike. Currently, in the Voice of America broadcasts overseas, the Byelorussian language is not included. Byelorussians compose the fourth largest ethnic group in the Soviet Union, and one of the oldest groups in the United States. The inclusion of the Byelorussian language in the VOA broadcasts would be beneficial to all those living under Soviet domination, and all those interested in their plight. It is through actions like this that we must continue to show our support for Byelorussia; reaffirming our moral committment to the struggle for freedom.

**Congressman Robert A. Roe from New Jersey** (March 30, p. E 1351):

Mr. Speaker, I would like to lend my support today to a request by the Byelorussian-American community that the Byelorussian language be included as part of our Voice of America programing.

It is vitally important that our Byelorussian brothers know that the people of the United States stand strongly behind their efforts to regain their lost freedoms.

**Congresswoman Millicent Fenwick from New Jersey** (March 31; p. H 1297):

Mr. Speaker, on March 28, the Byelorussian-American community here in the United States observed the 64th anniversary of the proclamation of Byelorussian independence, which took place in Miensk the capital of Byelorussia on March 25, 1918. Soon after this, the Lenin government, while stating its support for the secession by any nation that wished not to join the Union of Soviet Socialist Republics, imposed upon the Byelorussians a puppet government which it then recognized as the official representative of the people, in clear contravention to their stated desires.

Since that time, the people of Byelorussia have lived with an imposed government. The new regime in Russia proclaimed the end of the Tsarist empire and freedom for all the nations that had been conquered by the Tsars. The record shows that the Soviet Union has become only the newest and most oppressive empire of modern times.

I join with the people of Byelorussia as they continue to proclaim their right to choose independence from the Soviet Government, as they continue to remind the world that the Union of Soviet Socialist Republics is not a union entered into freely, by the wishes of each nation involved, but rather, an imperialist imposition of a government of terror imposed by forces.

**Congressman F. James Sensenbrenner from Wisconsin** (April 1; p. E 1464):

Despite the Russification efforts of the Soviet Government, the Byelorussians' sense of nationalism is today as strong as ever. They are ever-striving for the self-determination and sovereignity which is theoretically granted them in the U.S.S.R's Constitution. As a citizen of the United States—a nation founded and existing on those very principles, I would like to remind my colleagues and all people who cherish freedom and individual rights, of the brave spirit of the Byelorussian people in their effort to be free. As Americans, we have a duty to remember the courage it takes for the Byelorussians to live under Soviet rule and still strive for the preservation of their national heritage.

## KUPALA, KOLAS HONORED IN LONDON

The Anglo-Byelorussian Society and the Francis Skaryna Library in London, England, will hold a joint meeting on **Saturday 9 October 1982** at the F. Skaryna Library to celebrate the 100th anniversary of the great Byelorussian poets Yanka Kupala and Yakub Kolas.

Papers have already been promised by Fr. A. Nadson, Prof. A. Adamovich, Prof. A. McMillin and by the artist Zaborau from Paris. Readers of **Bielarus** will be most welcome to attend. Further details can be obtained from Prof. James Dingley at the following address:

Mr. J. Dingley
Department of Russian
Faculty of Letters
University of Reading
Whiteknights
Reading RG6 2AA
Berkshire, England